№ 229 (1792)

Чацвер, 4 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — 0...+2, уначы — 0...+2, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +4...+6, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +4...+6, уначы — +1...+3, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — 0...+2, сонечна, уначы — -1...+1, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — 0...+2, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



ЗАПРАШЭННЕ

## Канцэрт з... XVI стагоддзя

*У Мінску адкрываецца сезон гістарычнай музыкі "Легенды вялікага Княства"*

Распачнецца ён канцэртам праслаўленага дудара Алеся Ляся са сваёй Капэлай. Праграма называецца "Музыка нашай Радзімы ў гісторыка-культурным кантэксце".

Алесь Лось — выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў. Яшчэ ў студэнцкія гады ён займаўся зборам інструментальнага фальклору, узнаўленнем у Смаргоні беларускай батлейкі і адраджэннем беларускай дуды. На сённяшні дзень ён з'яўляецца самым аўтарытэтным дударом у Беларусі.

Капэла А.Ляся — вядомы ў краіне і за яе межамі ансамбль, які займаецца адраджэннем беларускай гістарычнай музычнай традыцыі, узнаўленнем арыгінальнага гучання сярэднявечнай музыкі. Апошнія гады гэтая праца ішла ў накірунку **дакладнай рэканструкцыі гістарычнай музыкі.** Матэрыялы пачэрпнуты непасрэдна з архаічнага пласта беларускай культуры.

Алесь — удзельнік і пераможца многіх міжнародных фальклорных фэстаў, а таксама фэстаў сярэднявечнай культуры, праз якія яна і набыла папулярнасць. Удзельнікі капэлы — скрыпач, лірнік і дудар Алесь Лось, скрыпачка Вольга Емяльянчык, цымбалістка Марына Каленчыц, акардэаніст і басэтліст Юзэф Міхайлоўскі.

9 снежня слухачоў чакае выкананне лірніцкіх песень, кантаў XVI—XVIII стагоддзяў, смыковай музыкі, кампазіцый з рэпертуару 30-х гадоў XX стагоддзя. Запрашаем!

Канцэрт адбудзецца ў памяшканні Тэатра эстрады (Мінск, вул.Маскоўская, 18а). Пачатак а 19-й гадзіне.

Тэлефон для даведак: **222-82-96, 222-82-03.**

Квіткі ў касе Тэатра эстрады.

**Франак ВЯЧОРКА.**



ПУЛЬС

## На павышэнне

*Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, генерал-маёр Валерый Гайдукевіч прызначаны намеснікам міністра ўнутраных спраў — камандуючым унутранымі войскамі.*

Раней Валерый Гайдукевіч займаў пасаду намесніка камандуючага ўнутранымі войскамі Міністэрства ўнутраных спраў.

**Ул. інф.**

## Колін Паўэл ведае, што творыцца ў Беларусі

*Дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл абвінаваціў Беларусь у парушэнні шэрагу асноўных палажэнняў АБСЕ.*

Пра гэта, як перадае расійскае інфармацыйнае агенцтва "Новости", ён заявіў, выступаючы на 11-м пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін — членаў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

Паводле яго слоў, нягледзячы на рэзкія пратэсты прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Фраймута Дувэ, афіцыйны Мінск "рэгулярна праводзіць кампаніі па дыскрэдытацыі і пераследзе незалежных сродкаў масавай інфармацыі краіны". Метады дзейнасці беларускіх улад супраць апазіцыйных сіл дзяржавы "таксама далёкія ад абавязацельстваў, узятых на сябе ў гэтай частцы Мінскам", адзначыў дзяржсакратар ЗША.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Затрымалі...

2 снежня ў Брэсце затрымалі двух мясцовых жыхароў, якія займаліся вымагальніцтвам.

Падставай для затрымання стаў зварот у праваахоўныя органы 20-гадовага работніка аднаго з брэсцкіх будтрэстаў, які стаў ахвярай вымагальнікаў. Баючыся фізічнай расправы, ён на працягу сямі месяцаў штомесяц плаціў невядомым яму асобам 100 долараў ЗША.

Напярэдадні новага тэрміну выплаты грошаў, 2 снежня, малады чалавек звярнуўся па дапамогу ва Упраўленне па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з аргзлачыннасцю і карупцыяй (УКБАЗіК). У выніку да ўмоўнага месца прыбылі супрацоўнікі міліцыі. Каля аднаго з дамоў па вуліцы Міцкевіча пасля перадачы грошаў былі затрыманы двое жыхароў Брэста. Адзін з іх, 19 гадоў, — непрацуючы, другі — 22-гадовы студэнт Брэсцкага дзяржуніверсітэта імя Пушкіна. У першага была знойдзена і канфіскавана стодоларавая купюра, ён затрыманы; яго саўдзельнік пакуль адпушчаны.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

TV-НАВІНЫ

## «ЛАД» аднаўляе праграмы расійскай «Культуры»?

Інфармацыйнае агенцтва "Інтэрфакс" ужо называе і дату мяркуемых змяненняў — другая палова снежня.

Напэўна, такая паспешлівасць наўрад ці выклікана толькі аднымі пажаданнямі тэлегледачоў глядзець замест новага беларускага прадукта добразнаёмы расійскі — напрыклад, "Культурную революцию" Міхаіла Швыдкога ці "Школу злословия" Таццяны Талстой і Дуні Смірновай. Пэўныя змены пачалі адбывацца якраз пасля нарады ў Лукашэнкі кіраўнікоў беларускіх тэлевізійных каналаў.

На ёй Лукашэнка жорстка выказаўся наконт беларускага тэлебачання (на якім, як высветлілася, дрэнна праводзіцца ў жыццё палітыка беларускіх улад) і заявіў, што неабходна аднавіць на тэрыторыі Беларусі лепшыя праграмы расійскіх каналаў. Відаць, спробы падняць культурны і ідэалагічны ўзровень беларусаў шляхам пераносу індыйскіх фільмаў з Першага нацыянальнага на "ЛАД" поспеху не прынеслі.

Паколькі ўжо называецца нават дата плануемых змяненняў, мы вырашылі высветліць, што канкрэтна беларусы ўбачаць на блакітных экранах з другой паловы снежня.

Кіраўнік прэс-службы БТРК **Святлана Краскоўская**, да якой я звярнулася за каментарам, адказала, што яна не валодае такой інфармацыяй. У тэлефоннай гутарцы яна паведаміла наступнае: *"Я пакуль нічога не магу сказаць. Усе сочаць за падзеямі ў краіне, і за той нарадай у прэзідэнта, якая адбылася. Канкрэтных праграм мы не абвяшчаем для сродкаў масавай інфармацыі. Больш месяца вядзецца такая праца, мы размяшчалі анкету ў "Советской Белоруссии", але гэта ўсё ў рабоце... Вынікі анкеціравання ўжо ёсць. Дадзеныя дакументы — дакументы Белтэлерадыёкампаніі, і мы пра гэта не расказваем".*

Пакуль што абсалютную большасць эфіру "ЛАДа" складаюць старыя савецкія кінастужкі, а таксама нядаўнія перадачы Першага нацыянальнага канала — "Здароўе", "Сад мары", "Тэлебарометр", "Святло далёкай зоркі", "Мультыклуб", "Калыханка", "Спявай, душа!", а таксама праграмы абласных тэлестудый. Штосьці новае, адметнае, на "ЛАДзе" пакуль не з'явілася. А расійскія праграмы, якія з 18 кастрычніка беларускія тэлегледачы пазбаўлены магчымасці глядзець, мелі вялікі рэйтынг на тэрыторыі нашай краіны. А такія праграмы, як "Культурная революция" ці "Школа злословия" ў мінулым сезоне наогул былі прызнаныя лепшымі ў расійскім тэлеэфіры.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЭКСПЕРТИЗА

# Допрыгнет ли Совмин до Луны,

## или 10% пишем, 250 долларов в уме

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Как нетрудно было предвидеть, в дискуссии главы государства с правительством — о параметрах социально-экономического прогноза на 2004 год — верх одержал глава государства. 3 декабря на повторном совещании по этому и сопутствующим вопросам ("первое чтение" в ноябре закончилось большим нагоняем и возвратом документов на доработку) Александр Лукашенко жестко повторил свое требование. А именно: кровь из носу обеспечить 10-процентный рост валового внутреннего продукта. Теперь, сколько бы ни стонали чиновники Совмина, придется капитально переигрывать все расчеты. И подгонять под них упрямую реальность.

Что же заставляет официального лидера так нещадно подхлестывать административным кнутом прогнозные показатели? И возможен ли новый всплеск белорусского экономического чуда?

На совещании 3 декабря Александр Лукашенко повторил прежнюю мотивацию. "...Правительству нужно понимать, что речь не может идти о невыполнении тех или иных показателей в определяющем, четвертом году пятилетки", — приводит слова главы государства БелТА. Не правда ли, ностальгически веет стилем советской плановой экономики? Если кто не в курсе: пятилеткой Александр Лукашенко именует Программу социально-экономического развития Республики Беларусь до 2005 г., принятую на втором Всебелорусском народном собрании.



Было это, между прочим, в далеком уже мае 2001 года, как раз накануне борьбы Александра Лукашенко за очередной президентский срок. Культовым показателем программы стал ориентир в 250 долларов средней зарплаты в 2005 году. Эта заманчивая цифра наверняка прибавила тогда голосов в актив действующего президента. Теперь недалек уже и финиш "пятилетки", а до желанного показателя — как до Луны. Вот и стали такими нервными совещания с правительством. Как будто это нынешние совминовские чиновники, а не один известный политик, давали обещания с трибуны того самого Всебелорусского собрания (которое Александр Лукашенко, также в духе старых добрых времен, предпочитает именовать съездом)... Короче, обеспечить выход на параметры "пятилетки" правительству велено "хоть потом, хоть кровью".

Теоретически шансы на высокие темпы роста ВВП у нас, конечно, есть, сказал в интервью "Белорусским новостям" руководитель аналитического центра "Стратегия" Леонид Заико. Но... И далее эксперт перечислил длинный список этих "но".

Помните анекдот про то, почему не стреляла батарея? Командир называет десять причин, первая из которых — не было снарядов. Так и в нашем случае. Самое главное — в экономике нет и не предвидится тех системных реформ, которые, по словам Леонида Заико, могли бы создать благоприятные рамочные условия хозяйствования. "Их надо было обеспечить еще вчера, — говорит эксперт. — А сегодня можно уже утверждать, что имиджевая для руководства страны цифра в 250 долларов провалена".

В принципе же, по словам аналитика, эта красивая цифра изначально была приманкой. 250 долларов против 100 в 2001 году вовсе не означают, что народ станет жить в 2,5 раза богаче. Ведь параллельно круто взлетают цены, тарифы на транспорт, коммунальные услуги — короче, жизнь стремительно дорожает. И от того, что государство напечатает побольше бумажек с водяными знаками, богаче народ не станет. Даже в случае выхода на рубежи "пятилетки" реальный рост благосостояния составил бы от силы 20—25 процентов, считает маститый экономист Леонид Заико. Но и этого не будет.

При этом впечатляющие цифры "вала" так или иначе нужны Лукашенко позарез. Прежде всего — по причинам политическим, полагает эксперт Международного института политических исследований Андрей Федоров: "Смотрите, Путин, например, поставил амбициозную задачу удвоения российского ВВП. Белорусскому лидеру во что бы то ни стало надо показать, что он как минимум не хуже. Особенно на фоне провала интеграционных проектов. Теперь Лукашенко при каждом удобном случае подчеркивает, что белорусская экономическая модель не в пример разумнее и человечнее, нежели соседская. Не случайны ведь все эти мотивы: мол, у нас русским должно житься лучше, чем в России...".

Созвучное мнение высказал в интервью "Белорусским новостям" другой известный минский политолог — Владимир Ровдо: "В требованиях Лукашенко форсировать рост ВВП, конечно же, доминируют политические мотивы. Следующий год обещает быть весьма трудным для официального белорусского руководителя. Грядут парламентские выборы, возможен референдум по вопросу о возможности третьего президентского срока. Поэтому снова берутся на вооружение методы социального популизма. Надо убедить электорат, что нынешний глава государства [illegible] жизнь, чем в России или на Украине, например. Но мы уже знаем цену белорусскому экономическому чуду. Этот процесс напоминает надувание воздушного шарика. Когда нет настоящего рынка, невозможно обеспечить и реальный прогресс экономики". По мнению эксперта, дело сведется к идеологической накачке масс. По типу старой песни "Эх, хорошо в стране Советской жить!".

Постановка задач в духе "хоть потом, хоть кровью" — беспроигрышный вариант популизма. По мнению политолога, даже провал программы можно использовать для пиара. Ведь если Совмин с вертикалью не выпьет "пятилетку", есть прекрасный повод устроить большой разбор полетов, может, даже с жесткими посадками. Это шоу наш электорат тоже любит. И многие вполне склонны поверить, что это плохие чиновники сорвали выход на обещанные президентом 250 долларов на брата.

*("Белорусские новости".)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Почему в Минске и Баку события развивались не так, как в Белграде и Тбилиси...

*Сербская (2000 г.) и грузинская (2003 г.) революции имели успех, а белорусская (2001 г.) и азербайджанская (2003 г.) закончились неудачей.*



**Но знаешь ли, чем мы сильны, Басманов? Не войском, нет, не польскою помогой, А мнением, да, мнением народным...**

*Александр ПУШКИН "Борис Годунов"*

**Юрий ДРАКОХРУСТ**

Отвечая на этот вопрос, аналитики обычно говорят о жесткости Ильхама Алиева и Александра Лукашенко и скрытой слабости Слободана Милошевича и Эдуарда Шеварднадзе, что-де и продемонстрировал разворот событий.

Склонные к геополитике эксперты обращают внимание на то, что в этих кризисах по разному сходились главные светила мировой политики. Скажем, в Беларуси в 2001 году Россия играла на стороне власти, США поддерживали оппозицию, в Азербайджане Москва и Вашингтон, в принципе, сыграли на стороне Алиева, в Грузии великие державы тоже сыграли согласованно, но на стороне оппозиции.

Нет недостатка и в констатациях слабости белорусской и азербайджанской оппозиций, и в более глубокомысленных рассуждениях о патриархальном менталитете белорусов и азербайджанцев, который и обусловил победу власти.

Все эти наблюдения, по-видимому, вполне уместны. Но достаточны ли они для ответа на вопрос, почему в Минске и Баку события развивались иначе, чем в Белграде и Тбилиси? Или, точнее, не являлись ли указанные причины производными от некой иной?

Во всех четырех случаях причиной, "спусковым крючком" выступлений оппозиции стали выборы, точнее, возмущение оппозиции фальсификацией результатов голосования, в чем она обвиняла власти. Но вот суть обвинений была различной.

Напомним, что, согласно даже официальным данным, во время сентябрьских выборов 2000 года Воислав Коштуница набрал больше голосов, чем Слободан Милошевич, и лишь немного "не дотянул" до 50%. В то же время exit polls (опросы на выходе с избирательных участков) и данные независимых наблюдателей на выборах свидетельствовали о том, что кандидат от оппозиции одержал чистую победу уже в первом туре. Успех Коштуницы предсказывали и результаты социологических опросов, проведенных накануне выборов.

На грузинских выборах, согласно Центризбиркому (по крайней мере, согласно его первым сообщениям), пропрезидентский блок и "Национальное движение" Михаила Саакашвили набрали приблизительно равное количество голосов. Exit polls свидетельствовали о победе оппозиции, о том же говорили и результаты предвыборных опросов.

Так ли было в Азербайджане и Беларуси?

Ильхам Алиев, согласно официальным данным, одержал, как и его белорусский коллега, "элегантную победу". При этом прогноз, основанный на данных предвыборных опросов, тоже обещал победу, пусть и не такую "элегантную", "наследнику".

Читатели, возможно, помнят, что и белорусская ситуация более напоминала азербайджанскую, чем сербскую или грузинскую. Понятно, что фантастические показатели успеха Александра Лукашенко, обнародованные 9 сентября 2001 года Центризбиркомом, вызвали большое сомнение в лагере политических оппонентов. Однако данные независимых социологических исследований говорили о том, что глава государства на протяжении всей предвыборной кампании имел преимущество по сравнению с конкурентами. Самые благоприятные для оппозиции опросы накануне выборов обещали Владимиру Гончарику около 30% голосов, а Александру Лукашенко — примерно 55%. Наконец, в ночь выборов сам Владимир Гончарик, выступая на оппозиционном митинге, озвучил данные некоего неведомого опроса, согласно которому он, единый кандидат от оппозиции, набрал 44% голосов, а Лукашенко — 46%.



Сербы и грузины вышли протестовать, добиваясь возвращения "украденной" победы. Азербайджанцы и белорусы добивались... чего? Справедливости — да. Да, можно было возмущаться фальсификациями, добиваться возвращения "украденных" выборов. Выборов, но не победы. "Почувствуйте разницу".

Делая столь далеко идущие выводы на основании данных опросов, автор этих строк далек от веры во всесилие социологии, мол, миллионы сербов и грузин ознакомились с данными опросов, убедились, что одержали победу, и пошли на приступ президентских дворцов, а азербайджанцы и белорусы, узнав из опросов о том, что соответственно Алиев и Лукашенко в общем-то набрали больше голосов и без фальсификаций, в массе своей остались дома.

Такое наивное мнение можно нередко услышать как от политиков при власти и в оппозиции, так и от самих социологов. При этом иногда звучат ссылки на теорию "спирали молчания", разработанную в свою время немецким социологом Ноэлем Нойманом.

Одним из следствий этой теории является утверждение, что люди чаще всего думают и поступают так, как, на их взгляд, думает и поступает большинство. И если то или иное мнение о том, как думает большинство, становится господствующим, то оно превращается в "самосбывающийся прогноз". Иначе говоря, если большинство людей уверено, что большинство их соотечественников поддержит на выборах политика X., то X. на выборах победит, независимо от того, насколько правильной была народная оценка мнения большинства.

Согласно наивной интерпретации этой теории, социологические опросы, обнародование их результатов играют огромную роль в раскручивании "спирали молчания" в ту или другую сторону.

То есть если бы белорусские и азербайджанские независимые социологи заявляли, что Владимир Гончарик популярнее Александра Лукашенко, а Иса Гамбар — популярнее Ильхама Алиева, заяви Гончарик на площади 9 сентября, что он победил, события в Минске и в Баку пошли бы по сербскому и грузинскому сценарию.

Это, повторим, примитивная трактовка довольно сложных явлений.

На самом деле потребителем результатов опросов является весьма незначительная (по сравнению со всем населением) часть общества, в основном представители элиты. К тому же "война опросов", которая сопровождает любые выборы (по крайней мере сопровождала в четырех рассматриваемых странах), приводит к тому, что их эффекты взаимно компенсируются — люди верят тем опросам, которым хотят верить, которые подтверждают их мнения, сформированные до того, как они ознакомятся с данными опросов.

Однако "спираль молчания" на самом деле существует. Суть этой теории заключается в том, что каждый человек как общественное животное является стихийным социологом. На вопрос "А что, по вашему мнению, думают люди?" человек не скажет: "А я откуда знаю, я же всех не спрашивал". Он ответит нечто определенное, причем ответит, не зная никаких данных опросов, не зная даже об их существовании. И на такой вопрос люди начали отвечать сразу, как только слезли с деревьев, до всякой социологии.

Отклонение этого мнения каждого от истинного мнения большинства — интересная тема, но, в принципе, это народное мнение о народном мнении оказывается чаще всего верным, точнее — само это народное мнение меняется таким образом, что оказывается соответствующим массовым представлениям о нем.

Так что связь данных опросов с результатами кризисов в четырех странах — свидетельство не всемогущества социологов, а всемогущества того самого народного мнения.

Этим, кстати, объясняется и "загадочное" поведение сербского и грузинского центризбиркомов. Конечно, задним числом, зная конечный итог, можно объяснить это поведение тем, что Милошевич и Шеварднадзе в неустрашимости и жажде власти существенно уступали Алиеву и Лукашенко. Но куда более содержательным представляется объяснение, согласно которому пресс народного мнения давит на всех членов общества, в том числе и на облаченных в чиновничьи и военные мундиры.

У сербских демократов был удачный лозунг "Готов je"(он готов, ему конец). Не то чтобы он стал залогом победы, он просто очень точно описывает соответствующее психологическое состояние (если, разумеется, оно возникает). Если некто "Готов je", то станет ли даже доверенный член Центризбиркома трубить о его победе? Приписать сколько-нибудь — это, конечно, долг и обязанность, но несильно, чтобы в лучшем (или худшем) случае было "и нашим и вашим".

И поднимется ли рука солдата или генерала стрелять в такой ситуации? Да не в том дело, что "лить кровь своего народа — преступление" и т.д. (в другой ситуации пролили б за милую душу), а в том, что в солдатских и генеральских мозгах звучит то же самое — "Готов je".

Это слышит даже сам правитель, что если не определяет, то по крайней мере ограничивает его действия.

Ну а если звучит нечто противоположное? Тогда все крутится в другую сторону. Если "он" все равно победил, то почему бы и не приписать побольше, жалко что ли? Ну а если кто-то недоволен, то это бунт, мятеж, давить который — долг солдата, дававшего присягу.

Теории об активных меньшинствах, творящих историю, достаточно популярны. Однако все четыре рассматриваемые нами примера свидетельствуют о том, что получается это почему-то только в случае опоры на большинство, пусть даже и молчаливое.

Эту политологическую истину русский классик вложил в "Борисе Годунове" в уста своего предка, боярина Пушкина, который поддерживал самозванца Отрепьева. "Не войско", то есть не количество людей, вышедших на улицу, "не польская (американская, российская — нужное подчеркнуть) помога" — иное оказалось решающим фактором.

Ну а результат, в частности, грузинской революции с долей цинизма прокомментировал британский классик Роберт Бернс:

*Мятеж не может*
*кончиться удачей*
*В противном случае*
*его зовут иначе.*

*("Белорусские новости".)*

